# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№3 (166)
сакавік 2016

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”



## У НУМАРЫ:

### Падрыхтоўка да Сёмага з’езда і кампанія да 500-годдзя беларускага друку. План працы “Бацькаўшчыны” на гэты год зацверджаны

Пасяджэнне Малой Рады Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” адбылося ў Мінску.

**Працяг на стар. 2**

### Віншуем Івонку Сурвіллу!

11 красавіка знакавы юбілей святкуе сябра Вялікай Рады Згуртавання “Бацькаўшчына”, старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

**Працяг на стар. 3**

### Дзень Волі ў замежжы

Сёлета беларусы ў розных краінах свету па традыцыі шырока адзначалі Дзень Волі. Прапануем вам кароткі агляд таго, як праходзілі святкаванні ў некаторых краінах замежжа.

**Працяг на стар.5**

### У Малдове стварылі беларускі вакальны хор

Пры Беларускай грамадзе ў Рэспубліцы Малдова ўвосень 2015 года быў арганізаваны і пачаў дзейнічаць беларускі вакальны хор.

**Працяг на стар. 6**



Ніл Гілевіч падчас Чацвёртага з’езда беларусаў свету. Мінск, 2005 г.

# ПАМЯЦІ НІЛА ГІЛЕВІЧА

29 сакавіка ва ўзросце 84 гадоў памёр Ніл Гілевіч. Ён быў апошнім Народным паэтам Беларусі. Ніл Сымонавіч – адзін з заснавальнікаў ЗБС “Бацькаўшчына”, адзін з арганізатараў Першага з’езда беларусаў свету, на якім быў абраны ў першую Вялікую Раду і быў у ёй шмат гадоў.

Ніл Гілевіч нарадзіўся 30 верасня 1931 года ў вёсцы Слабада Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскае педагагічнае вучылішча імя Н. К. Крупскай (1951), а таксама філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1956). Кандыдат філалагічных навук, прафесар. У 1958—1963 гадах працаваў літаратурным кансультантам газеты “Звязда”. З 1960 года працаваў на кафедры беларускай літаратуры БДУ. У 1980—1989 — першы сакратар праўлення Саюза Пісьменнікаў БССР. З 1989 — старшыня рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Галоўны рэдактар газеты-бюлетэня ТБМ “Наша слова”. З чэрвеня 1990 — старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнае спадчыны. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР (1985—1990). У 1990 годзе быў абраны народным дэпутатам БССР. Сябра Прэзыдыума Вярхоўнага Савета БССР.

У сваёй прамове падчас Першага з’езда беларусаў свету Ніл Сымонавіч казаў: “На вялікі жаль, і ў нашым парламенце, і ва ўрадзе, і ў іншых дзяржаўных і недзяржаўных структурах супроць лініі на станаўленне суверэннай, незалежнай, нейтральнай, бяз’ядзернай беларускай дзяржавы выступаюць не толькі даўнія, загартаваныя і асатанелыя ворагі беларушчыны, але і некаторыя дэмакраты, прыхільнікі і абаронцы эканамічных рэформ. Што гэта значыць? Гэта значыць, што па-ранейшаму беларуская ідэя яшчэ не стала галоўнай аб’ядначай сілай. І ў гэтым найвялікшая наша бяда. Гаварыў не аднойчы і скажу яшчэ раз з гэтай высокай трыбуны: наша дзяржава яшчэ далёка не стала ў поўным сэнсе слова беларускай дзяржавай. Нам гэта яшчэ належыць зрабіць. І гэта стане тады, калі беларускімі пачуюцца нашы парламент і ўрад. Вядома, сутнасць не толькі ў мове. І аднак жа перш за ўсё, і сто разоў перш за ўсё — у мове.”

**Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” і супрацоўнікі кампаніі “Будзьма беларусамі!” смуткуюць і выказваюць спачуванні блізкім і родным Ніла Сымонавіча і ўсяму беларускаму народу.**

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ПАДРЫХТОЎКА ДА СЁМАГА З'ЕЗДА І КАМПАНІЯ ДА 500-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ. ПЛАН ПРАЦЫ "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" НА ГЭТЫ ГОД ЗАЦВЕРДЖАНЫ

Пасяджэнне Малой Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" адбылося ў Мінску.

Напачатку кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" і сябры Малой Рады ўрачыста павіншавалі са знакавым юбілеем асобу, якая стаяла ля вытокаў арганізацыі, вялікую частку свайго жыцця аддала вывучэнню беларускай дыяспары, вяртанню ў Беларусь славутых імёнаў нашых землякоў – Лідзію Савік.

Кіраўніцы арганізацыі, Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская, распавялі пра дзейнасць Згуртавання ад студзеня па сакавік і адносна супрацы з беларусамі замежжа, і ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі!".

Сябры Рады заслухалі і ўхвалілі фінансавую справаздачу дзейнасці Згуртавання за 2015 год, а таксама азнаёміліся з вынікамі пасяджэння Вялікай Рады. У галасаванні ўзялі ўдзел 69 з 95 сябраў гэтага кіруючага органа. Яны аднагалосна ўхвалілі справаздачу дзейнасці "Бацькаўшчыны" за 2015 год. Большасцю галасоў таксама былі ўхвалены прапановы ініцыяваць стварэнне ў Міністэрстве замежных справаў Рэспублікі Беларусь асобнай структуры па справах беларусаў замежжа, асобных пасадаў у пасольствах і консульствах Рэспублікі Беларусь па справах беларускай дыяспары, а таксама стварэнне Міністэрствам адукацыі РБ дыстанцыйных курсаў вывучэння беларускай мовы з атрыманнем адпаведнага сертыфіката. Сябры Вялікай Рады не толькі галасавалі па пытаннях, прапанаваных Управай, але і мелі магчымасць выступіць са сваімі прапановамі, якія былі ўважліва прааналізаваныя. Самыя цікавыя і актуальныя прапановы былі ўключаныя Малой Радай у план дзейнасці Згуртавання. Сярод іх – неабходнасць спрашчэння візавага рэжыму для беларусаў замежжа, распрацоўка і ўвядзенне пасведчання беларуса, стварэнне і дасылка арганізацыям беларускай дыяспары падручнікаў па беларускай мове, неабходнасць збірання, захавання архіваў беларусаў замежжа і вяртання ў Беларусь спадчыны беларусаў замежжа. Агучваліся таксама прапановы правесці навукова-практычную канферэнцыю ці круглы стол па праблемах беларускай дыяспары, неабходнасць прадугледзець дзяржаўнае фінансаванне мэтавых праектаў беларускай дыяспары, у тым ліку грамадскіх арганізацый, што працуюць у гэтай галіне. Вялікую цікавасць і падтрымку сяброў Малой Рады выклікала ініцыятыва выйсці з прапановай аб стварэнні пры Урадзе Беларусі асобнай структуры, якая б займалася маніторынгам выканання закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", аналізавала стан і выступала з прапановамі па ўдасканаленні дзяржаўнай палітыкі ў гэтай галіне.

Сябра Рады Алег Трусаў паведаміў пра ініцыятыву МУС Беларусі ўсталяваць у Мінску помнік гарадавому. І прапанаваў, каб Таварыства беларускай мовы і Згуртаванне "Бацькаўшчына" сумесна правяло кампанію супраць гэтай ганебнай для Беларусі ініцыятывы. Сябры Малой Рады аднагалосна падтрымалі такую прапанову.



Важным пытаннем парадку дня стаў план дзейнасці Згуртавання на 2016 год. Усяго план утрымлівае 72 пункты па арганізацыйным, культурна-асветным, у тым ліку ў межах кампаніі "Будзьма беларусамі!", выдавецкім і іншых кірунках. Сярод запланаванага:

- удзел Згуртавання ў працы Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа пры МЗС;
- правядзенне канферэнцыі, прысвечанай гісторыі і дасягненням беларускай эміграцыі, з запрашэннем да ўдзелу навукоўцаў з Беларусі і замежжа.

Плануецца таксама правядзенне шэрагу конкурсаў і інфармацыйных кампаній, сярод якіх:

- падвядзенне вынікаў конкурсу з нагоды 25-годдзя Згуртавання;
- конкурс на Прэмію імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў за найлепшую кнігу ў галіне непрыдуманай літаратуры, які другі год запар ладзіцца сумесна з Саюзам беларускіх пісьменнікаў, БІНіМам і выдавецтвам "Лімарыус";
- правядзенне шырокай кампаніі па ўшанаванні дзяржаўнага дзеяча, мінскага гарадскога галавы графа Караля Чапскага;
- арганізацыя інфармацыйнай кампаніі з нагоды юбілеяў слынных дзеячаў беларускага замежжа.

Відавочна, плануецца і далейшае папаўненне серыі бібліятэка "Бацькаўшчыны" ўнікальнымі даследаваннямі жыцця і дзейнасці беларускай дыяспары, і працяг працы па каардынацыі грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!".

Дзве знакавыя падзеі з плана адбудуцца толькі ў 2017 годзе, але падрыхтоўка да іх будзе распачатая ўжо зараз. Гэта – Сёмы з'езд беларусаў свету і 500-годдзе беларускага друку.

Пасля абмеркавання прапанаваны кіраўніцтвам "Бацькаўшчыны" план працы на гэты год быў аднагалосна ўхвалены сябрамі Малой Рады.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# У БЕЛАРУСІ ЗАПУСКАЕЦЦА ІНКУБАТАР САЦЫЯЛЬНАГА ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

"Бацькаўшчына" выступіла інфармацыйным партнёрам у рэалізацыі доўгатэрміновага праекту "Інкубатар сацыяльнага прадпрымальніцтва". Гэтую праграму запускае ОДБ Брусель у партнёрстве з TNU Network University (Нідэрланды), беларускім моладзевым грамадскім аб'яднаннем "Новые лица" пры падтрымцы Еўрапейскага Саюза.

У межах праграмы 200 пачаткоўцаў-прадпрымальнікаў, а таксама прадстаўнікі НДА і падлеткі ад 15 да 18 гадоў змогуць вучыцца асновам сацыяльнага прадпрымальніцтва па ўнікальнай міжнароднай методыцы, выкарыстоўваючы досвед і веды вядучых беларускіх экспертаў, якія запусцілі SocStarter. На працягу 9 месяцаў навучання студэнты праграмы змогуць працаваць з ментарамі, знаёміцца з практычным досведам беларускай бізнес-дыяспары з ЕС і ЗША, а таксама паўдзельнічаць у конкурсе на атрыманне фінансавання для свайго стартапа!

**by.odb-office.eu**

## ВІНШУЕМ З ЮБІЛЕЕМ ІВОНКУ СУРВІЛЛУ!


Радыё "Свабода"

11 красавіка знакавы юбілей святкуе сябра Вялікай Рады Згуртавання "Бацькаўшчына", старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

Лёс гэтай мудрай, абаяльнай жанчыны з незгасальнай чароўнай усмешкай складваўся няпроста.

Нарадзілася Івонка Сурвілла (у дзявоцтве – Шыманец) у 1936 годзе ў Стоўбцах. Потым бацькі пераехалі ў Баранавічы. Калі Івонцы было 3 гады, яе бацьку арыштавалі і засудзілі на пяць гадоў ссылкі ў Сібір. Яму цудам ўдалося пазбегнуць расстрэлу. Калі ў 1944 годзе бацьку пагражала новае зняволенне, сям'я вырашае ўцякаць з Беларусі. Ім удалося выехаць таварным цягнікам з Баранавічаў у Кёнігсберг. Івонцы тады было восем год, яе брату Лёніку — сем, а сястрычцы Прадславе — усяго дзевяць месяцаў.

Па ўспамінах Івонкі Сурвіллы, дзевяць жахлівых месяцаў сям'я перабіралася праз Усходнюю Прусію, адтуль — у Данію, там ад хваробы памерла маленькая Прадслава. Праз тры гады сям'я Шыманцоў пераязджае ў Францыю.

У Парыжы Івонка вучылася ў Вышэйшай мастацкай школе, марыла займацца мастацтвам, але, разумеючы, што гэтым на жыццё не заробіш, перарвала вучобу і паступіла на моўнае аддзяленне Сарбоны (скончыла ў 1959 г.).

Акрамя роднай мовы, Івонка Сурвілла валодае яшчэ васьмю: французскай, іспанскай, ангельскай, нямецкай, дацкай, лацінскай, нарвежскай, польскай.

У 1959 годзе Івонка выйшла замаж за Янку Сурвіллу і пераехала ў Іспанію. Да 1965 г. працавала на Нацыянальным іспанскім радыё ў Мадрыдзе, вяла перадачы на беларускай мове, што трансляваліся на Беларусь.

У 1969 годзе Івонка разам з мужам і дачушкамі Ганнай і Паўлінкай канчаткова пасяліліся ў Канадзе. Да 1997 года Івонка працавала англа-французскім перакладчыкам у Федэральным урадзе Канады. Акрамя таго, займалася жывапісам, удзельнічала ў мастацкіх выставах.

У 1989 годзе, даведаўшыся пра сапраўдныя памеры Чарнобыльскай катастрофы, Івонка Сурвілла арганізавала Фонд дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі. Гэты фонд дапамог прыехаць у Канаду на лячэнне і аздараўленне тысячам беларускім дзетак. Мільёны даляраў былі сабраныя на дапамогу ахвярам Чарнобылю.

Івонка Сурвілла ўзначальвала Фонд восем гадоў, да моманту абрання Старшынёй Рады БНР у 1997 годзе.

Пра працу спадарыні Івонкі на гэтай пасадзе ў каментары на "Радыё Свабода" выказаўся шматгадовы сябра рады БНР Янка Запруднік: "Мушу сказаць, што пасля старшыні Рады Міколы Абрамчыка, на маю думку, спадарыня Івонка, бадай, найбольш дынамічная і дамагглася найбольшых вынікаў. Яна добры арганізатар, у яе вялікая энергія і дысцыпліна, што вельмі важна для арганізацыі, якая складаецца з раскіданых па свеце людзей. Так што Івонка – выдатная старшыня Рады БНР, і гэтак яна будзе запісаная ў гісторыю".

За сваю працу як старшыні Рады БНР і спрыянне ў станаўленні дэмакратыі ў Беларусі Івонка Сурвілла ў 2013 годзе атрымала Медаль Брыльянтавага юбілею Каралевы Лізаветы II.

Амаль не жывучы ў Беларусі, Івонка Сурвілла тым не менш праз усё сваё жыццё нясе бясконцую любоў да роднага краю і працуе на яго карысць, не шкадуючы сіл і здароўя.

Шаноўная спадарыня Івонка!

Сардэчна віншуем Вас з юбілеем і жадаем моцнага здароўя, каб хапіла сіл і энергіі для працягу Вашай руплівай працы на карысць роднай Беларусі яшчэ на доўгія-доўгія гады!

Шчыры дзякуй Вам за Вашую самаахвярную працу!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

## ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ВІЛЬНІ: СЯБРОЎСКІЯ РАЗМОВЫ, ВІНШАВАННЕ АД "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" І КАНЦЭРТ АЛЕСЯ КАМОЦКАГА

26 сакавіка ў Беларускім доме правоў чалавека ў Вільні адбылося святкаванне Дня Волі. Ініцыятарам і галоўным арганізатарам свята быў дырэктар Культурнага цэнтра Якуба Коласа ў Вільні Хведар Нюнька.

На мерапрыемстве сабраліся даўнія сябры і паплечнікі Хведара Якубавіча, сярод якіх – Алег і Крысціна Аблажэі, Валеры Радзюкевіч, Леакадзія Мілаш з дачкой Ксеніяй. Шмат гасцей прыехала з Беларусі: акадэмік Радзім Гарэцкі з жонкай Галінай, літаратуразнаўца і перакладчык Лявон Баршчэўскі, рэжысёры-дакументалісты Алег Дашкевіч і Вольга Мікалайчык, старшыня ТБМ Алег Трусаў і намесніца старшыні Алена Анісім, старшыня Дзіцячага фонду духоўнага і культурнага адраджэння "Сакавік" Марыя Міцкевіч, прадпрымальнік Вячаслаў Піліпук з РГА "Перспектыва", дырэктар ААТ "Люсанна", сябра Управы МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Мікола Люцко, бард Алесь Камоцкі, кіраўнік Згуртавання "Бацькаўшчына" Алена Макоўская і старшыня Рады Ніна Шыдлоўская. Не абмінулі ўвагай гэтае мерапрыемства стараста Вяркяйскай акругі Віленскай гарадской Рады Вацлаў Гульбіновіч і галоўны спецыяліст Дэпартамента нацыянальных меншасцяў пры Урадзе Літоўскай Рэспублікі Раса Палюкене.

**Працяг на стар. 4.**


Падарунак і кветкі ад "Бацькаўшчыны" Хведару Нюньку ўручае Ніна Шыдлоўская



## ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з днём нараджэння сяброў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў красавіку: Валянціну Арлову (Аксак), Алега Хаменку (Беларусь), Хведара Нюньку (Літва), Наталлю Герасімюк, Алену Глагоўскую (Польшча), Алега Рудакова, Сяргея Бандарэнку (Расія), Петруся Капчыка (Украіна). Зычым Вам выдатнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, поспехаў ва ўсіх справах, пазітыўных эмоцый і цікавых падзей!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## ВІНШУЕМ З ДНЁМ ВОЛІ!




generetion.by

Шаноўныя сябры!

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуе ўсіх беларусаў на Радзіме і за яе межамі з нашым вялікім нацыянальным святам – Днём Волі! У гэты дзень, 25 сакавіка 1918 года, была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Значэнне гэтай падзеі для гісторыі Беларусі цяжка пераацаніць. Хаця стваральнікі БНР не здолелі надоўга ўтрымаць уладу, абвяшчэнне незалежнасці БНР аказала моцны ўплыў на развіццё нацыянальнай свядомасці беларусаў. Фактычна гэтая падзея заклала падмурак сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

На жаль, і на сённяшні дзень, праз 98 год пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, ідэалы і памкненні яе стваральнікаў застаюцца недасягнутымі.

Па-ранейшаму мы не можам адчуваць упэўненасць і бяспеку ў тым, што датычыць незалежнасці і суверэнітэту нашай краіны. Таму жадаем, каб свята 25 сакавіка стала святам еднасці для ўсяго беларускага народу. Хай Дзень Волі стане добрай нагодай, каб пакінуць у баку ўсе спрэчкі і супярэчнасці, якія раздзяляюць беларускае грамадства, і адчуць сапраўдны гонар за сваю краіну, яе слаўную гісторыю, багатую культуру і найпрыгажэйшую мову.

Жадаем усім беларусам на Бацькаўшчыне і ў замежжы добрага здароўя, сіл і імпэту для працы на карысць нашай роднай Беларусі! Хай Бог спрыяе ва ўсіх вашых справах! Хай сэрцы поўняцца светлымі пачуццямі, верай і надзеяй на лепшае!

**Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

## ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ВІЛЬНІ: СЯБРОЎСКІЯ РАЗМОВЫ, ВІНШАВАННЕ АД "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ" І КАНЦЭРТ АЛЕСЯ КАМОЦКАГА

**Працяг са старонкі 3.**

Святочнасць нагоды – угодкі БНР – і сяброўская атмасфера спрыялі таму, што кожны з прысутных выказаўся і пра значнасць 25 сакавіка для сённяшняй дзяржаўнасці Беларусі, і пра неацэнны ўнёсак асабіста Хведара Нюнькі і Таварыства беларускай культуры пад яго кіраўніцтвам у захаванне беларускай прысутнасці ў Вільні. Таксама гасцей з Беларусі цікавіла, як ідзе беларускае жыццё ў Літве. Удзельнікі сустрэчы абмяркоўвалі, якія беларускія мерапрыемствы адбываюцца ў Вільні, чым жыве Беларуская гімназія імя Францішка Скарыны ў Вільні; з прыемнасцю абмеркавалі, што з нядаўняга часу штодзённа ў Віленскім касцёле святога Бартламея праводзяцца набажэнствы на беларускай мове.

Пра станаўленне Беларускай Народнай Рэспублікі, пра Устаноўчы з'езд БНР распавёў Радзім Гарэцкі. Дарэчы, ён адзначыў, што зараз ёсць падставы казаць, што на з'ездзе БНР прысутнічаў Максім Гарэцкі. Менавіта на фоне гэтых знакавых гістарычных падзеяў разгортваецца дзеянне яго аповесці "Дзве душы". Радзім Гаўрылавіч паведаміў, што Нацыянальны акадэмічны тэатр Янкі Купалы як раз рыхтуе спектакль паводле гэтай аповесці. Прэм'ера запланавана на канец красавіка.

Надзвычай цікава і грунтоўна распавяла пра гісторыю беларускага руху ў Літве Леакадзія Мілаш, адзначыўшы, што цяперашняя беларуская гімназія, колішняя школа, паўстала выключна з намаганняў Хведара Нюнькі.

Павіншаваў прысутных са святам і прэзентаваў Хведару Нюньку сваю кнігу перакладаў выбраных твораў паэтаў Еўропы і Амерыкі "І боль, і прыгажосць" Лявон Баршчэўскі.

Ад імя Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" павіншавала ўдзельнікаў мерапрыемства з Днём Волі кіраўнік Згуртавання Алена Макоўская. Улічваючы, што Хведару Нюньку споўнілася 88 гадоў, кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" скарысталася магчымасцю, каб павіншаваць шаноўнага Хведара Якубавіча, адзначыўшы яго асабістую ролю для адраджэння беларускага руху ў Вільні і прыгадаўшы найбольш знакавыя моманты, зробленыя Таварыствам беларускай культуры ў Літве пад яго кіраўніцтвам. Старшыня Рады Ніна Шыдлоўская ўручыла Хведару Якубавічу кветкі і падарунак ад "Бацькаўшчыны".

Размаўляючы пра беларускія справы ў Літве, на жаль, немагчыма было абмінуць той прыкры канфлікт, які адбыўся ў Таварыстве беларускай культуры ў Літве некалькі год таму і ў выніку якога ў СМІ пачалася сапраўдная кампанія па цкаванні Хведара Нюнькі, скіраваная на тое, каб нівеляваць усё тое, што было зроблена ТБК у Літве за больш як два дзясяткі гадоў пад яго кіраўніцтвам. А гэта і безліч культурных мерапрыемстваў і з'езды беларусаў Балтыі, і кнігі, што выдаваліся ТБК, і шыльды беларускім дзеячам на вуліцах Вільні, і заснаванне беларускай школы ў Вільні.

Усе прысутныя аднадушна выказалі падтрымку і пашану Хведару Якубавічу, адзначыўшы, што літоўскі суд, прыняўшы рашэнне на карысць Хведара Нюнькі, тым самым даў прававую ацэнку яго гаспадарчай дзейнасці на чале Таварыства. На жаль, заканадаўства Літвы дазваляе двойчы апеляваць да суда па адных і тых жа пытаннях, чым і скарыстаўся канфліктуючы бок. Таму ў красавіку шаноўнаму спадару Хведару давядзецца перажыць яшчэ адзін суд…

Музычным падарункам для ўдзельнікаў свята стаў канцэрт барда Алеся Камоцкага. А дачка Леакадзіі Мілаш Ксенія акапэльна парадавала прысутных беларускімі песнямі.

На другі дзень імпрэзы ва ўрачыстай атмасферы Хведар Нюнька перадаў паўнамоцтвы дырэктара культурнага цэнтра Якуба Коласа ў Вільні свайму даўняму паплечніку Алегу Аблажэю.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# ДЗЕНЬ ВОЛІ Ў ЗАМЕЖЖЫ

Сёлета беларусы ў розных краінах свету па традыцыі шырока адзначалі Дзень Волі. Прапануем вам кароткі агляд таго, як праходзілі святкаванні ў некаторых краінах замежжа.

## Рыга

Латвійскае таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" 19 сакавіка зладзіла цёплую сустрэчу сяброў і аднадумцаў з нагоды святкавання Дня Волі.

Упрыгожылі святочную імпрэзу сваімі песнямі выканаўцы з гурта "Вытокі". Самадзейныя артысты спявалі творы на словы латвійскага паэта-беларуса Станіслава Валодзькі, пакладзеныя на музыку "світанкаўцам" Станіславам Клімавым.

Наведаў імпрэзу і вядомы латышскі паэт і перакладчык Улдыс Бэрзыньш. Ён павіншаваў прысутных са святам і зазначыў, што латышы і беларусы маюць шмат агульнага не толькі ў гістарычным плане, але і ў сугуччы нашых моў. Пагадзілася з ім і спадарыня Наталля Ціманкові, ганаровы сябра таварыства "Сьвітанак", якой хутка споўніцца 90 год.

Сярод сяброў-світанкаўцаў прысутнічаў і самы маленькі – першакласнік Мікола Казак, у асобе якога і ёсць наша надзея, будучыня, неабходнасць да дробязей захаваць нашу слынную спадчыну.

Каб свята адбылося, нямала намаганняў прыклаў Вячка Целеш. Менавіта яму належыць сцэнар добра зладжанага мерапрыемства.

## Нью-Ёрк

Беларусы Нью-Ёрка адзначылі 98-ю гадавіну ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

У прыватнасці, на чарговым сходзе Беларуска-Амерыканскага Згуртавання "Пагоня", прымеркаваным да Дня Волі, адбыўся выступ паэткі Ірыны Хадарэнка і барда Сержука Сокалава-Воюша.

25 сакавіка беларуская грамада Нью-Ёрка сабралася на святкаванне ў клубе Мерыдыян 23. У праграме, акрамя прывітанняў і кароткіх дакладаў, былі віктарына на тэму беларускай мовы, культуры і гісторыі і конкурс, у якім з 3, 5 або 8 нот патрэбна было адгадаць назву беларускай песні ці мелодыі.

Пасля гэтага выступаў госць Зміцер Вайцюшкевіч і трошкі пазней да яго далучыўся Зміцер Сляповіч. Пасля канцэрту адбылася латарэя, у якой разыгралі рэчы з беларускай сімволікай.

## Таронта

У нядзелю, 20 сакавіка, Згуртаванне Беларусаў Канады адзначыла 98-ую гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі святочным шэсцем з бел-чырвона-белымі сцягамі па цэнтральнай вуліцы Таронта – найбуйнейшага горада Канады.

Пасля службы ў царкве св. Кірылы Тураўскага (БАПЦ) удзельнікі скіраваліся ў парк Крысці, дзе прайшоў кароткі мітынг.

Шэсце прайшло адной з цэнтральных вуліц Таронта да Беларускага Цэнтру, дзе адбылася ўрачыстая імпрэза. Са святочным зваротам па тэлефоне з ЗША да ўдзельнікаў мерапрыемства звярнулася Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла.

Сакратар Галоўнай Управы ЗБК Віталь Кошалеў падрабязней распавёў аб падзеях у Мінску ў сакавіку 2006 года, якія цяпер многія называюць "Беларускім Майданам". Жывучы тады ў Беларусі, Віталь быў удзельнікам тых падзей.

Сябра Рады БНР Алесь Кот распавёў пра гістарычную місію Рады, а таксама прадставіў калекцыю партрэтаў Прэзідэнтаў БНР, што будзе выстаўлена ў Беларускім Цэнтры ў Таронта.

Напрыканцы афіцыйнае часткі слова ўзяў Барыс Кірка, бадай найстарэйшы сябра ЗБК. Ён заклікаў беларусаў да еднасці, а таксама падтрымаў ідэю шырэйшага ахопу беларускай грамады Канады праз культурніцкія мерапрыемствы (як, прыкладам, серыя ўрокаў "Мова Нанова", што праходзіць сёлета ў Беларускім Цэнтры ў Таронта).

Сапраўды святочны настрой стварыў выступ вядомай спявачкі Святланы Літвінавай, якая на працягу 15 гадоў была салісткай Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча.

Часткай імпрэзы стаўся і святочны стол з пачастункамі, сярод якіх былі пірагі з надпісамі "Воля", "За свабоду", а таксама цукеркі з гербам "Пагоня".



Дзень Волі ў Таронта. Па заканчэнні шэсця

## Варшава

Сябры беларускай грамады ў Варшаве, а таксама салідарныя з імі ўкраінцы і палякі са спевамі патрыятычных песняў ды воклічамі "Жыве Беларусь!", "Слава Украіне!", "Няхай Жыве Польшча!" прайшлі маршам ад сталічнай плошчы Трох Крыжоў да Замкавай плошчы, дзе адбыўся мітынг.

"Мы жадаем сапраўды дэмакратычных зменаў беларусам, бо толькі вызвалення палітвязняў не дастаткова", — сказаў у часе мітынгу былы мэр Варшавы, а цяпер дэпутат Сэйму Марцін Свянціцкі. Прамаўлялі таксама прадстаўнікі ўкраінскай грамады, беларускага дому ў Варшаве ды Ян Маліцкі — дырэктар стыпендыяльнай праграмы імя Каліноўскага.

## Бельск Падляшскі

У II Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім (Польшча) традыцыйна адзначылі Дзень Волі.

Вучні ўпрыгожылі школьныя калідоры плакатамі пра Беларусь. У спартыўнай зале прайшоў беларускі турнір, пасля чаго ў школе паказалі дакументальны фільм Юрыя Каліны "Сярожа".

Прайшла таксама сустрэча з рэжысёрам Юрыем Калінам і журналістам Яраславам Іванюком. Невыпадкова – яны з'яўляюцца выпускнікамі Белліцэя.

## Гайнаўка

98-ыя ўгодкі ўзнікнення Беларускай Народнай Рэспублікі адзначылі таксама ў Гайнаўцы. У Музеі і асяродку беларускай культуры пачулі расповед пра выхадцаў з Падляшша, якія спрычыніліся да тых гістарычных падзеяў. Пра Язэпа Варонку ды Міколу Дзямідава расказаў прафесар Алег Латышонак.

Удзельнікі святкавання пабачылі таксама фільм Радаслава Дамброўскага "Вольны", прысвечаны выдатнаму беларусу Юры Туронку.

На завяршэнне сустрэчы ў Гайнаўцы заспяваў бард Алег Кабзар.

## Прага

25 сакавіка беларусы Прагі ўсклалі вянкі і кветкі на магілы прэзідэнтаў Рады БНР Пятра Крэчэўскага і Васіля Захаркі, запалілі свечкі. Айцец Андрэй Абламейка правёў традыцыйную паніхіду.

Увечары, 26 сакавіка, у вінарні Alta ў цэнтры Прагі адбыўся канцэрт беларускага піяніста Віталя Стахіевіча. Адмыслова з нагоды Дня Волі ён прыляцеў у Прагу з Амстэрдама, дзе цяпер жыве і працуе.

Акрамя гэтага, у межах святкавання Дня Волі ў Празе адбыўся канцэрт дудара Яўгена Барышнікава і вечарына "Беларускае піва".

**Паводле інфармацыі Згуртавання Беларусаў Канады, svitanak.lv, "Радыё Свабода", "Нашай Нівы", "Беларускага радыё Рацыя"**

**навіны**

# У СКАРЫНАЎСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ Ў ЛОНДАНЕ РЭДАГУЮЦЬ ВІКІПЕДЫЮ І ПРАВОДЗЯЦЬ ЗАНЯТКІ З ДЗЕЦЬМІ



Фота Ігара Іванова

Дзве цікавыя падзеі адбыліся ў Беларускай бібліятэцы і музеі імя Францішка Скарыны ў Лондане. 12 сакавіка, там прайшоў Дзень на Вікіпедыі, а на наступны дзень бібліятэка ўпершыню вітала дзяцей і бацькоў на сямейнай сустрэчы.

Дзень на Вікіпедыі быў задуманы як творчая і навучальная падзея: пісаць для Вікіпедыі пра Беларусь на любой мове ці па-беларуску – на любую тэму.

На падзею ў самой бібліятэцы прыйшло сем чалавек і яшчэ тры далучыліся праз Скайп – з Англіі і Швецыі. Праграма складалася з воркшопа па рэдагаванні Вікіпедыі для пачаткоўцаў і ўласна напісання артыкулаў. Да сесіі ў Скайпе таксама далучылася з Святлана Ермаковіч з мінскай суполкі Фаланстэр, якая за адну са сваіх мэтаў ставіць садзейнічаць асвойванню грамадствам адкрытых электронных тэхналогій. Святлана распавяла пра стварэнне Вікідапаможніка, сродкі на выданне якога збіралі па ўсім беларускім свеце з дапамогай цяпер ужо папулярнага краўдфандынгу.

Першым быў апублікаваны артыкул пра Святлану Алексіевіч... па-інданезійску! А потым з'явілася яшчэ каля дзясятка матэрыялаў па-беларуску і па-англійску. Таксама быў пашыраны і абноўлены шэраг ужо створаных. Уся імпрэза атрымалася вясёлай і карыснай, яна дадала ведаў удзельнікам.

13 сакавіка бібліятэку запоўнілі дзеці з бацькамі, каб у вельмі вясёлай і дынамічнай атмасферы з чароўным ліхтарыкам павандраваць віртуальна па розных мясцінах Беларусі, шукаць іх, адгадваць, клеіць і маляваць... У выніку кожны стварыў сваю непаўторную мапу Беларусі.

Не абышлося і без пачастунку пад інсцэніроўку апавядання "Сумны суп", а таксама песень пад гітару. Кожны панёс дадому часцінку Беларусі не толькі на мапе, але і ў сэрцы.

**Паводле Ігара Іванова**

**навіны**

# У МАЛДОВЕ СТВАРЫЛІ БЕЛАРУСКІ ВАКАЛЬНЫ ХОР

Пры Беларускай грамадзе ў Рэспубліцы Малдова ўвосень 2015 года быў арганізаваны і пачаў дзейнічаць беларускі вакальны хор. Пра гэта паведаміў старшыня Рады Беларускай грамады ў Малдове Юры Статкевіч.

Як адзначае спадар Юры, хор з'явіўся "не раптам, не проста так".

"На працягу больш як 10 гадоў на сваіх сходах, віншаваннях, пры ўдзеле ў розных Рэспубліканскіх малдаўскіх мерапрыемствах мы, сябры Беларускай грамады Малдовы, заўсёды спявалі нашы беларускія песні: "Ручнікі", "Касіў Ясь канюшыну", "Бярозы", "Бывайце здаровы", "Мой родны кут" і інш. Гэта падабалася ўсім слухачам і, у першую чаргу, самім выканаўцам. За гэты час утварылася група спевакоў і запявалаў з добрымі галасамі" – распавядае Юры Статкевіч.

Увосень 2015 года на Радзе Беларускай грамады ў Малдове было прынятае рашэнне аб стварэнні беларускага вакальнага хору. Доўга шукалі мастацкага кіраўніка, спрабавалі некалькіх і нарэшце знайшлі беларуса, прафесійнага музыку, які пагадзіўся ўзяцца за гэту няпростую справу. Гэта Дзмітрый Нікіцін – дырыжор джазавых эстрадных і духавых аркестраў.

"Пачаліся рэпетыцыі (па суботах) і выступы, – распавядае Юры Статкевіч. – Спачатку ў сваім калектыве, як было раней, потым у Клубе рускай песні, потым на Рэспубліканскіх мерапрыемствах: "Дзень роднай мовы" і "Масленіца". Пакуль робім першыя крокі".

Праблема, на якую скардзіцца Юры Статкевіч, – гэта адсутнасць беларускіх нацыянальных строяў для выступленняў удзельнікаў хору. Разам з тым спадар Юры спадзяецца, што гэтую праблему ўдасца вырашыць.

"Спадзяемся, што дзяржаўныя ўлады нашай Радзімы падтрымаюць гэту ініцыятыву і акажуць дапамогу ў атрыманні беларускіх нацыянальных строяў для вакальнага хору Беларускай абшчыны Малдовы на карысць нашай Бацькаўшчыны, – адзначае Юры Статкевіч. – Спяваем ад шчырага сэрца нашы беларускія песні. Стараемся, каб людзі ў Малдове ведалі і паважалі нашу Беларусь!"

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА САКАВІК 2016 ГОДА

4 красавіка — 120 гадоў таму, у 1896-м, нарадзіўся Васіль Русак (1896 — 1946) (в. Ячава, цяпер Слуцкі р-н), грамадска-палітычны дзеяч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну. Загінуў у савецкім канцлагеры.

9 красавіка — 70 гадоў таму, у 1946-м, у Міхельсдорфе (Нямеччына) з ініцыятывы Наталлі Арсеневай і Юркі Віцьбіча створанае Беларускае літаратурнае згуртаванне "Шыпшына".

14 красавіка — 915 гадоў таму, у 1101-м, памёр полацкі князь Усяслаў Брачыслававіч (Чарадзей; 1029 — 1101).

16 красавіка — 105 гадоў таму, у 1911-м, нарадзілася Зоя Коўш (1911 — 1994), нацыянальны дзеяч у Вільні, вязень ГУЛАГу.

17 красавіка — 125 гадоў таму, у 1891-м, нарадзіўся Язэп Варонка (1891 — 1952, Сакольшчына, цяпер Падляшскае ваяв., Польшча), палітычны дзеяч, журналіст, публіцыст, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

17 красавіка — 105 гадоў таму, у 1911-м нарадзіўся Сымон Шаўцоў (1911 — 1999), дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі, пісьменнік.

19 красавіка — 135 гадоў таму, у 1881-м, нарадзіўся Усевалад Ігнатоўскі (1881 — 1931, в. Такары, цяпер Камянецкі р-н), гісторык, першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук.

23 красавіка — 130 гадоў таму, у 1886-м, нарадзіўся Змітрок Бядуля (1886 — 1941, сапр. Самуіл Плаўнік; мяст. Пасадзец, цяпер Лагойскі р-н), пісьменнік, удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху.

23 красавіка — 25 гадоў таму, у 1991-м, у Штутгарце (Нямеччына) памёр Дзмітрый Касмовіч (1909 — 1991), дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху і эміграцыі ў Бельгіі і Нямеччыне.

24 красавіка — 10 гадоў таму, у 2006-м, у Нью-Ёрку памерла Вера Бартуль (дзяв. Касцюкевіч, 1930 — 2006), дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і ЗША. Пахаваная на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША).

25 красавіка — 70 гадоў таму, у 1946-м, у Рэгенсбургу (Баварыя, Нямеччына) адбыліся асвячэнне і першая багаслужба ў беларускай праваслаўнай царкве.

26 красавіка — Дзень памяці ахвяраў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (1986).

27 красавіка — 10 гадоў таму, у 2006-м, у Нямеччыне памёр Міхаіл Вітушка (1907 — 2006), генерал, адзін з лідараў Беларускай незалежніцкай партыі, кіраўнік беларускага супраціву ў другой палове 1940 — 1950-х гг.

29 красавіка — 90 гадоў таму, у 1921-м, нарадзіўся Мікола Ермаловіч (1921 — 2000, в. Малыя Навасёлкі, цяпер Дзяржынскі р-н), гісторык, літаратуразнавец.

навіны

# "Востраў беларускай традыцыйнай культуры" – Алег Рудакоў пра беларускую кавярню ў Іркуцку і расчараванасць ад мінскіх рэстарацый

У траўні гэтага года ў Іркуцку будуць святкаваць 20-годдзе правядзення Першага з'езда беларусаў Прыбайкалля. З гэтай нагоды Іркуцкі моладзевы клуб "Крывічы" ладзіць міжнародны фестываль "Беларускі кірмаш", на які з'едуцца творчыя калектывы не толькі з Іркуцкай, а і іншых абласцей Расіі, а таксама і з іншых краінаў, у тым ліку чакаюцца госці і з Беларусі.

Да юбілею моладзевы клуб «Крывічы» плануе таксама адкрыць у Іркуцку беларускую этна-кавярню. Адзін з лідараў клуба Алег Рудакоў прыехаў у Мінск у дзелавую паездку, каб вырашыць некаторыя пытанні адносна стварэння беларускай кавярні ў Іркуцку. Спадар Алег знайшоў час завітаць на сядзібу "Бацькаўшчыны" і распавесці пра тое, як рухаецца справа з адкрыццём кавярні і пра іншыя планы па святкаванні 20-гадовага юбілею.



Воля Галанава з першай кружэлкай у руках

## Востраў беларускай традыцыйнай культуры ў Іркуцку

"Яшчэ 15 гадоў таму мы мелі намер адкрыць беларускую кавярню ў Іркуцку, але тады ў нас не было фундатараў, якія б маглі ўкласці грошы ў гэтую справу, не было людзей, абазнаных у традыцыйнай беларускай кухні, – распавялае Алег Рудакоў. – А нядаўна я выпадкова пазнаёміўся з беларусам. Ён нарадзіўся ў Сібіры, але мае беларускія карані. Яго прозвішча Глебец. Праўда, калі мы пазнаёміліся, ён пра сваё паходжанне не задумваўся. Мы разгаварыліся, я патлумачыў яму, што значыць беларускае слова "глеба", распавёў пра беларусаў, іх традыцыі, характар. Высветлілася, што ў яго таксама беларускія карані. І ён дужа "зафанацеў", каб адкрыць беларускую кавярню".

Сяргей Глебец, які выступае галоўным фундатарам кавярні, мае больш за 15 гадоў досведу працы ў рэстаранным бізнесе. Кавярня будзе называцца "Беларуская глеба". Паводле слоў Алега Рудакова, гэта будзе беларуская кавярня не толькі таму, што там будуць падаваць традыцыйныя беларускія стравы, але і паводле інтэр'еру. Усё будзе як у беларускай хаце: белыя сцены, драўляныя лавы і сталы, беларускія ручнікі, старадаўнія экспанаты беларускага побыту, традыцыйныя вырабы з саломкі. Афіцыянткі будуць хадзіць у сапраўдных беларускіх строях. У кавярні будзе гучаць сучасная беларускамоўная музыка розных стыляў. У планах таксама павесіць тэлевізар і дэманстраваць на ім відэа, знятыя падчас беларускіх святаў і мерапрыемстваў Іркуцкага моладзевага клуба "Крывічы", а таксама пазнавальныя відэа пра Беларусь.

Яшчэ адной цікавосткай кавярні, распавядае Алег Рудакоў, будзе беларуская бібліятэка. Ужо зараз рыхтуюцца палічкі каля бармэна, дзе будзе знаходзіцца каля 500 беларускіх кніг. Наведнікі ў чаканні сваіх замоваў змогуць узяць пачытаць беларускія кнігі. Канечне, браць з сабой кнігі нельга, толькі чытаць на месцы, але, хто зацікавіцца, можа прыходзіць хоць кожны дзень.

Такім чынам іркуцкія беларусы ствараюць не проста кавярню, а, як кажа Алег Рудакоў, сапраўдны "востраў беларускай традыцыйнай культуры".

## Мінскія кавярні выклікалі расчараванне

Алег Рудакоў прыехаў разам з фундатарамі ў Мінск, каб знайсці спецыялістаў па традыцыйнай беларускай кухні.

"Ужо чацвёрты дзень ходзім па Мінскіх рэстарацыях. Каштуем беларускія традыцыйныя стравы. Усё сціпла, наогул сапраўдных беларускіх страваў мала. Ёсць штосьці а-ля традыцыйнае беларускае, але ў большасці выпадкаў, гэта ўсё не тое. Таму прысутнічае пэўная расчараванасць, – дзеліцца ўражаннямі Алег Рудакоў, – але мы знайшлі тэарэтыкаў, якія вывучалі традыцыйную беларускую кухню, знайшлі кухараў, якія маюць досвед у прыгатаванні беларускіх нацыянальных страваў".

Паводле слоў Алега Рудакова, знайшліся кухары, якія гатовыя рызыкнуць і паехаць на працу ў Іркуцк: "Мы прапануем добрыя грошы, ва ўсялякім разе па беларускіх мерках, фундатары аплочваюць пералёт да Іркуцка, будзе цалкам "белая" зарплата і сацпакет".

Урачыстае адкрыццё беларускай этна-кавярні ў Іркуцку запланаванае на 22 траўня.

## Юбілейныя падарункі

Адмыслова да юбілею Першага з'езда беларусаў Прыбайкалля рыхтуецца дакументальны фільм пра беларускую дыяспару ў Прыбайкаллі.

"Рэжысёр-дакументаліст Вадзім Рудакоў (ён не мой сваяк, проста прозвішча супала) працаваў над фільмам 1,5 гады, – расказвае Алег Рудакоў, – прыязджаў да нас на мерапрыемствы, збіраў матэрыял для фільма. Ён яшчэ нават назву не прыдумаў. Што там атрымалася, я сам нават не ведаю, думаю неблагі фільм будзе. У красавіку дзесьці паглядзім фільм самі, а потым да юбілею зладзім афіцыйную дэманстрацыю".

Яшчэ адным падарункам да юбілею стане выхад трэцяй плыткі іркуцкага гурта беларускага аўтэнтычнага спеву "Крывічы". Гурт быў заснаваны яшчэ ў 2009 годзе з ініцыятывы Волі Галанавай, якая і зараз з'яўляецца яго кіраўнічкай і адначасова старшынёй моладзевага клуба "Крывічы". Усе дзяўчаты-ўдзельніцы гурта нарадзіліся ў Сібіры, але яны вывучаюць беларускую мову і з задавальненнем спяваюць на ёй песні.

Першы альбом "Крывічоў" "Вецярок вее…" выйшаў у 2011 годзе. У 2013 годзе гурт выдаў другую плытку "А ў Калядачкі…" І вось сёлета мусіць выйсці трэці альбом, на якім па традыцыі будуць аўтэнтычныя песні беларускіх перасяленцаў у Прыбайкаллі.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

*Надрукавана ў скарочаным выглядзе. Тэкст цалкам чытайце на zbsb.org*

**in memoriam**



Фота з фэйсбука Ганны Вольскай

## Ганна Вольская
**(1975-2016)**

23 сакавіка ад анкалагічнай хваробы пайшла з жыцця Ганна Вольская, культурная дзяячка, жонка і прадзюсарка вядомага беларускага музыкі Лявона Вольскага.

Ганна Вольская нарадзілася 11 чэрвеня 1975 года.

Скончыла Інстытут культуры. У 1995–1996 гадах працавала ў рэкламным аддзеле легендарнага "Радыё 101.2", дзе і пазнаёмілася з будучым мужам. У шлюбе у іх нарадзілася дачка Адэля, якой у дзень смерці Ганны споўнілася 18 гадоў.

Ганна пэўны час была дырэктарам гурту N.R.M., з'яўлялася нязменным прадзюсарам музычнага праекта "Крамбамбуля" і сольных альбомаў Лявона Вольскага, выступала суаўтаркай сцэнару, прадзюсарам і нават акторкай у некалькіх праектах для тэлеканала "Белсат" ("Снежны завулак", "Назад у будучыню"). Сябра ГА "БАЖ" з 2009 года.

**baj.by**

***

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні блізкім і родным Ганны і ўсім, хто яе ведаў. Смуткуем разам з вамі!



"Наша Ніва"

## Міхась Сенька
**(1922-2016)**

У амерыканскім Саўт-Рыверы памёр грамадскі актывіст Міхась Сенька. Яму было 94 гады.

"Сыход з жыцця адбываўся паступова. Апошнім часам нябожчык чуўся вельмі слаба. Быў у добрым доглядзе жонкі Валянціны і медыцынскага персаналу", — напісаў Янка Запруднік.

Міхась Сенька нарадзіўся 2 студзеня 1922 г. у Новым Свержні. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў медыцынскай школе ў Баранавічах на фармацэўта, некаторы час быў загадчыкам аптэкі ў Стоўбцах.

Па вайне жыў у беларускім лагеры ў Ватэнштэце (Ніжняя Саксонія), скончыў беларускую гімназію імя Максіма Багдановіча, браў актыўны ўдзел у скаўтынгу.

У 1949 г. выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі). Міхась Сенька вельмі шмат зрабіў для запрасінаў беларускіх уцекачоў у Саўт-Рывер ды далейшай разбудовы ў ім беларускага жыцця.

Разам з Лянгінай Брылеўскай, Барысам Кітом і іншымі актывістамі афармляў страхоўкі і запрашэнні беларусам, перацягваючы іх у ЗША. У доме Сенькі па Херманстрыт, 24 нашы суайчыннікі на некалькі дзён знаходзілі свой часовы прытулак.

У Нью-Джэрсі Міхась Сенька працаваў на заводзе "Форд", а ўвесь вольны час займаўся грамадскай працай: быў старшынёй Аб'яднання беларуска-амерыканскай моладзі, сакратаром Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі, уваходзіў у царкоўную раду парафіі св. Еўфрасінні Полацкай, радным БЦР. Увогуле ягоная кватэра была "штабам" для ці не дзясятка беларускіх арганізацый у Нью-Джэрсі.

За ўсёй такой працай не было часу на асабістае жыццё. Ажаніўся Міхась Сенька досыць позна — у 73 гады — з Валянцінай Палюховіч. Іх гасцінны дом на Уотс-стрыт заўсёды прымаў гасцей, а самі Сенькі заўсёды трымаліся беларускага жыцця і былі актывістамі беларускага праваслаўнага прыходу.

**Паводле "Нашай Нівы"**

***

Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" выказвае шчырыя спачуванні родным і блізкім Міхася Сенькі. Рай светлы яго душы!

**навіны**

# КАСЦЁЛ СВ. БАЛТРАМЕЯ Ў ВІЛЬНІ ПЕРАДАДЗЕНЫ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЗЕ

"Ад сёння, 13 сакавіка, у касцёле св. Балтрамея ў Вільні набажэнствы будуць адбывацца толькі на беларускай мове". Такія словы прамовіў дапаможны біскуп Віленскай архідыяцэзіі Арунас Панішкайціс у часе набажэнства.

Далей ён зазначыў, у Вільні ёсць касцёлы, дзе набажэнствы адбываюцца толькі на адной мове, польскай, літоўскай, украінскай, то цалкам лагічна, што і беларусы павінны мець свой касцёл. Такім чынам, распачынаецца новая старонка ў гісторыі беларускага каталіцтва ў Вільні.

Душпастырам для беларусаў Вільні і ваколіц прызначаны брат Арыюш Малыска OFM Cap (Ордэн Меншых Братоў Капуцынаў, францысканец).

Набажэнствы на беларускай мове будуць адбывацца штодзённа а 18.00 вечара. У нядзелю будзе дзве Імшы на беларускай мове а 10.00 і 12.00.

**Паводле Аляксандра Адамковіча, westki.info**

**навіны друку**

# "СПРАБУЙМА!" — У ЯПОНІІ ВЫЙШАЎ ПАЧАТКОВЫ КУРС БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ДЛЯ ЯПОНЦАЎ

"Азнаямляльна-пачатковы курс беларускай мовы для японцаў" выдадзены ўякасці навучальнага матэрыялу ў цэнтры замежных моў Цукубскага ўніверсітэта (Японія).

"Хацела б падзяліцца з усімі добрай навіною. Нарэшце выйшаў з друку падручнік "Спрабуйма!: Азнаямляльна-пачатковы курс беларускай мовы для японцаў. Частка I", які я сумесна напісала са спадарыняй Таццянай Рамзай (дацэнт БДУ) пад рэдакцыяй спадара Тасінобу Усуяма (прафесар Цукубскага ўніверсітэта)", — паведаміла вядомая многім беларусам Сіёры Кіёсава.

Падручнік складзены на аснове распрацаваных матэрыялаў па прадмеце "Славянскія мовы і культуры", які выкладаўся на факультэце гуманітарных навук Цукубскага ўніверсітэта ў 2015 г. Падручнік упершыню ў Японіі падрыхтаваны ў адпаведнасці з новай рэдакцыяй беларускага правапісу, які быў прыняты ў 2008 г.




"Падручнік атрымаў цудоўную назву "Спрабуйма!". Спадзяюся, што гэтая першая "спроба" вывучэння беларускай мовы кожным зацікаўленым японскім чытачом перарасце надалей у глыбокую цікавасць да культуры, гісторы ды іншых разнастайных прывабнасцей Беларусі", — піша японка Сіёры Кіёсава.

**Паводле "Нашай Нівы"**

**Беларусы ў свеце**
No3 (166), сакавік 2016
Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27